Цана 15 гр. „Biełaruski Front“ 15 maja 1939 r. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 10 (44) Вільня, 15 траўня 1939 г. Год IV

## Міжнародная салідарнасьць.

Аб міжнароднай салідарнасьці можна пачуць часта, так як і аб славянскай салідарнасьці. Ідэя міжнароднай салідарнасьці паўстае найболей у трудныя часіны існаваньня чалавецтва, калі адна часьць чалавецтва змагаецца з другою, або калі адны народы зьдзекуюцца над другімі.

Саму ідэю міжнароднай салідарнасьці разумеюць розна. Адны разумеюць, як салідарнасьць народаў, другія — як салідарнасьць сяброў аднэй клясы, або аднэй рэлігіі. Гавораць яшчэ часта аб салідарнасьці працоўных, г. зн. што ўсе працоўныя, разсыпаныя па ўсім сьвеце, павінны быць салідарны. Кожная з гэтых форм міжнароднай салідарнасьці мела ў розных часох сваіх прыхільнікаў і была праводжана ў жыцьцё, апроч хіба толькі „салідарнасьці працоўных“, якая заўсёды была нейкай утопіяй.

Салідарнасьць *народаў* была рэалізавана ў г. зв. Лізе Народаў, якая паўстала пасьля Вялікай вайны ў 1919 годзе з ініцыятывы прэз. Вільсона. Мэты яе такія: супрацоўніцтва народаў, забясьпячэньне агульнага міру і супакою, вырашаньне спрэчак і шуканьне паразумленьня між народамі на падставе міжнароднага права. Цяпер, як ведама, Ліга Народаў перажывае глыбокі крызіс.

Другою формай міжнароднай салідарнасьці ёсьць не супрацоўніцтва народаў, але *клясаў*. Найболей ведамай формай у гэтым кірунку ёсьць супрацоўніцтва пралетарыяту, згуртаванага пад сьцягам сацыялізму і камунізму. Тут мы маем аж *тры кірункі* гэтага супрацоўніцтва, або тры гэтак званыя інтэрнацыяналы: другі, трэці і чацьверты. Быў яшчэ і *першы* інтэрнацыянал, заложаны ў 1864 годзе ў Лёндане Марксам, з мэтай барацьбы з буржуазіяй і закладзін работніцкай дзяржавы, але гэты першы інтэрнацыянал скора занепаў. Тады ў 1889 г. быў заложаны *другі* інтэрнацыянал у які ўваходзілі як сацыялісты так і камуністы, але гэты інтэрнацыянал у часе Вялікай вайны фактычна перастаў існаваць. Быў ён узноўлены ў 1923 годзе ў Гамбурзе і абыймае сяньня *сацыялістычныя* партыі бадай усіх краеў сьвету. Але апроч гэтага інтэрнацыяналу быў заложаны ў 1919 годзе яшчэ *трэці* камуністычны інтэрнацыянал, або г. зв. Камінтэрн, які гуртуе ў сабе камуністаў усіх краёў. Трэба аднак адзначыць, што гэты інтэрнацыянал абыймае толькі сталінцаў, гэта значыць тых камуністаў, якія прызнаюць талкаваньне камунізму і кірунак Сталіна; тыя-ж, якія знаходзяцца пад уплывамі Троцкага, належаць да г. зв. *чацьвертага* інтэрнацыяналу.

Апроч міжнароднай салідарнасьці пралетарыяту, выражанай у другім, трэцім або чацьвертым інтэрнацыянале, ёсьць яшчэ *рэлігійныя* інтэрнацыяналы. Яны гуртуюць сяброў даных рэлігіяў, разсыпаных па розных народах і краінах. Інтэрнацыянальнымі зьяўляюцца бадай усе рэлігіі, як хрысьціянскія, так і нехрысьціянскія, нават малыя адломы іх (сэктанты) ў сваім прынцыпе зьяўляюцца інтэрнацыянальнымі і прыймаюць да сябе сяброў усіх нацыяў.

Значыць, маем многа формаў міжнароднай салідарнасьці і супрацоўніцтва, пачынаючы ад салідарнасьці нацыяў (Ліга Народаў), салідарнасьці сацыялістаў і камуністаў, а канчаючы на салідарнасьці рэлігійных грамадзтваў. А які рэзультат? Трэба зусім аб'ектыўна сьцьвердзіць, што паміма гэтульких форм *сапраўднай салідарнасьці паміж народамі няма*. Чаму?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба наўперад дапусьціць факт існаваньня нейкіх прычын, якія перашкаджаюць і не дапускаюць да гэтай салідарнасьці. Якія-ж гэта могуць быць прычыны? На наш пагляд, першай і галоўнай прычынай была *нястача роўнасьці і справядлівасьці паміж народамі*. Гэтага прынцыпу ня было, напрыклад, і ў Лізе Народаў, якая была заложана з тэй мэтай, каб бараніць правоў гэтых народаў. Урэшце Ліга Народаў была ня так лігай народаў, як Лігай дзяржаваў (дзяржаўных народаў). Паміж гэтымі дзяржавамі ня было роўнасьці, бо ўсе справы вырашала Англія разам з сваімі дамініямі ў супалцы з Францыяй, а дзе няма роўнасьці, там няма і справядлівасьці. Беларусы некалькі разоў пасылалі скаргі ў Лігу Народаў — і рэзультат гэтых скаргаў быў такі, што толькі пару разоў атрымалі паквітаваньне аб атрыманьні скаргаў... І толькі! Гэтаксама было з скаргамі іншых народаў.

Што датычыць іншых інтэрнацыяналаў, як сацыялістычных так і камуністычных, дык слабасьцяй іх было тое, што яны гуртавалі толькі адну клясу, або лепш кажучы, адну партыю народу. Гэтая кляса, або партыя, належачы да інтэрнацыяналу, зразумелая рэч, не магла парваць сувязі з сваім народам і ў дэцыдуючы мамэнт бадай заўсёды станавілася не на старане інтарэсаў інтэрнацыяналу, але на старане інтарэсаў сваей нацыі. Гэта выявілася ў часе Вялікай вайны, калі расейскія, францускія, англійскія сацыялісты, узгадаваныя на кульце інтэрнацыяналу, змагаліся з гэтакімі-ж сацыялістымі нямецкімі, аўстрыяцкімі і іншымі. Здаецца, не памылімся, калі скажам, што падобнае змаганьне будзе адбывацца і паміж камуністамі сільнейшых і слабейшых нацыяў, калі справа будзе датычыць нацыянальнага, эканамічнага або культурнага разьвіцьця гэтых нацыяў, не гаворачы ўжо аб іх існаваньні. Прыклад гэтакага змаганьня мы бачым у СССР, дзе камуністы слабейшых нацыяў (беларусаў, украінцаў і іншых) прымушаны змагацца з камуністамі сільнейшай, расейскай нацыі і ў гэтым змаганьні нават кладуць свае галовы...

Значыць, першай і галоўнай падставай кожнай міжнароднай салідарнасьці ёсьць роўнасьць і поўная свабода ўсіх народаў. Бяз гэтакай падставы немагчыма ніякая салідарнасьць. Пры няроўнасьці нацыяў існуе і няроўнасьць клясаў, бо нават сацыяліст ці камуніст слабейшай нацыі заўсёды ставіцца ніжэй за сацыяліста ці камуніста сільнейшай нацыі... Мусіць дзеля гэтага цяпер творацца саюзы не на падставе клясавых, але на падставе *нацыянальных інтарэсаў*. Гэтакае зьявішча мы бачым цяпер на ўсім сьвеце. Відаць, чалавецтва шляхам здабываньня роўнасьці для нацыяў ідзе да міжнароднай салідарнасьці. Бяз роўнасьці нацыяў немагчыма *ніякая* салідарнасьць!

## Польска-нямецкія адносіны і прамова міністра Бэка.

Трэба сказаць, што польска-нямецкі канфлікт зварочвае на сябе ўвагу палітычных кругоў усяго сьвету. Усе іншыя канфлікты, як у раёне Міжземнага мора так і на Балканах, здаецца, адыйшлі на другі плян, а на першы плян выходзіць аджыўшы з такой вялікай сілай стары польска-нямецкі спор. Гэты спор пераходзіць у адкрыты канфлікт, дзякуючы няўступчывасьці як аднэй так і другой стараны і дзякуючы тэй дыпляматычнай ігры, якая разгарэлася каля гэтага канфлікту. З аднаго боку маем прамовы Гітлера і Бэка, а з другога — усе дыпляматычныя камбінацыі дзяржаў, заінтарэсаваных у гэтым канфлікце, галоўна Англіі, Францыі і Саветаў. Дзеля гэтага польска-нямецкаму канфлікту прысьвячаецца столькі ўвагі,

Каб зразумець гэты канфлікт трэба зьвярнуць увагу на вялікія супярэчнасьці інтарэсаў паміж Польшчай і Нямеччынай. Гэтыя супярэчнасьці выяўляюцца ня толькі ў Гданску і г.зв. „карыдоры“, які аддзяляе Ўсх. Прусію ад Нямеччыны, але ў самым палажэньні Польшчы, якая ляжыць на шляхох Нямеччыны на ўсход... Трэба прызнаць, што ня толькі гэтак званы „карыдор“ перашкаджае Нямеччыне ў яе імкненьні да Ўсх. Прусіі, але **ўся Польская дзяржава перашкаджае Нямеччыне ў яе імкненьні на ўсход!** Вось у гэтым і ляжыць найглыбейшая прычына сяньняшняга нямецка-польскага канфлікту.

Нябожчык маршал Пілсудскі разумеў добра гэтую супярэчнасьць польскіх і нямецкіх інтарэсаў і бачыў немінуласьць канфлікту. Дзеля гэтага, зараз пасьля прыходу Гітлера, ў 1933 годзе, зьвярнуўся да Францыі і Англіі з прапазыцыяй папяраджаючай вайны проціў Нямеччыны. „Кур. Віл.“ (17. VIII. 38), апіраючыся на літоўскай прэсе, у гэтай справе так пісаў: „Дык вясною 1933 году, калі ў міжнароднай палітыцы паказаліся першыя праявы дынамікі нацыянал-сацыялізму, Пілсудскі нядвузначна запрапанаваў англійцам і французам зрабіць малую апэрацыю — зьніштажэньня немцаў, пакуль уваружаючая акцыя не зрабіла іх небясьпечнымі. Маршал Пілсудскі запрапанаваў сам з сваею арміяй памашыраваць на Бэрлін, адно каб Лёндан і Парыж заапрабавалі яго крок“. Аднак маршал Пілсудскі зразуменьня для сваіх плянаў не знайшоў, бо дэмакрацыі Захаду яшчэ дзяржаліся тактыкі дыпляматычных перагавораў, паперовых нотаў і для іх прапазыцыя Маршала паказалася авантураю. Пась-

ля гэтага Маршал пачаў шукаць кантакту з Нямеччынай і ня зрываючы саюзаў з Захадам, заключыў 26. І. 1934 году пакт ненападаньня з Нямеччынай, хочучы знайсьці нейкі спосаб сужыцьця з сваею заходняю суседкаю, так як быў знойдзены з ўсходняю. І праўда, Польшч ад 1934 па 1938 год шмат памагла Нямеччыне ў рэалізацыі яе плянаў. „Gazeta Polska“ нядаўна пісала, што за спыненьне Нямеччынай акцыі, скіраванай процiў цэласьці Рэчыпаспалітай Польшч заплаціла дорага: прызнала за Нямеччынай прынцып роўнасьці правоў у галіне ўваружэньня, не перашкаджала Гітлеру ў акцыі, ідучай да аб'еднаньня нямецкага народу, згадзілася на сарганізаваньне Гданска пад сьцягам нацыянал-сацыялізму. За гэта, кажа „Gaz. Polska“, Нямеччына выступіла з карпата-ўкраінскай неспадзеўкай і падняла справу Гданска ў форме немагчымай да прыняцьця. Апроч гэтага Нямеччына ставіць Польшч перад дакананымі фактамі вайскова-палітычнага значэньня, як далучэньне Чэхіі і Маравіі, узяцьце пад апеку Славакіі, заняцьце Клайпэды, прыгэтым нямецкія дывізіі бязупынна спацыруюць каля польскіх граніц...

Гэтак прадстаўляюцца польска-нямецкія адносіны ў іх гістарычным развіцьці апошніх гадоў. Затрымаліся мы над гісторыяй гэтых адносін, бо бяз гэтага гістарычнага падыходу для нас былі-б няясны цяперашнія спрэчкі за Гданск і карыдор, няяснымі былі-б таксама прамовы Гітлера і Бэка. Аб прамове Гітлера і ягоных жаданьнях адносна Польшчы мы пісалі ў мінулым нумары „Б. Фронту“, а цяпер **затрымаемся над прамовай мін. Бэка**. Зьмест цэлай прамовы ў галоўных лініях такі: Насамперш мін. Бэк сьцьвярджае, што ў апошнім часе ў сусьветнай палітыцы наступіла многа зьмен. Калі ідзе аб Польшч, дык яе зносіны з аднымі дзяржавамі паглыбіліся ў кірунку прыязьні і супрацоўніцтва, а з другімі спаткаліся з рознымі труднасьцямі. З Англіяй наступіла поўнае паразумленьне і дайшло да ўзаемнай гваранцыі, а з Францыяй польскія адносіны зусім добрыя, толькі з Нямеччынай дайшло да напружаньня адносін. Канцлер Нямеччыны выкарыстаў польска-англійскае паразумленьне з мэтай парваньня польска-нямецкага дагавору з 1934 г. Польшч заключыла дагавор з Англіяй выключна дзеля абароны перад чужым нападам. Жаданьні Нямеччыны ідуць да таго, каб адапхнуць Польшч ад Балтыцкага мора, але Польшч адапхнуцца ня дасца. Гданск заўсёды быў зьвязаны з Польшчай, бо ён ляжыць каля ўтокаў вялікай польскай ракі, дзеля гэтага Польшч уступіць яго ня можа. Польшч прыгэтым не забараняе гданскаму нямецкаму насельніцтву завадзіць у сябе гітлероўскі парадак і нават ўладу, але на адыход Гданска пад выключнае панаваньне Нямеччыны ня згодзіцца. Таксама ня можа згадзіцца на правядзеньне праз Памор'е аўтастрады, якая знахадзілася-б пад уладай Нямеччыны. Прыгэтым мін. Бэк адкідае слова „карыдор“ і заяўляе, што гэта не карыдор, а адвечная польская зямля. На ніякія камбінацыі ў справе Славакіі Польшч ня пойдзе, бо ня мае звычаю гандляваць чужымі інтарэсамі. Аднак Польшч гатова гаварыць з Нямеччынай на аснове вышэй пададзеных прынцыпаў, бо знае цану міру. Але не прызнае прынцыпу, што мір мае быць за ўсякую цану, бо толькі адно ёсьць цэнным, як ў жыцьці людзей так і дзяржаў, гэта чэсьць.

Такім парадкам мін. Бэк адкінуў абодва жаданьні Нямеччыны, як адносна Гданска так і экстэрыторыяльных шляхоў з Нямеччыны ў Усх. Прусію. Польшч адносна Гданска гатова гаварыць толькі ў справе апрацаваньня новага Статуту для гэтага гораду, бо стары Статут, які апіраецца на Лізе Народаў, ужо аджыў свой век. Польшч хоча згоды, абапёртай на двухстаронным паразумленьні Польшчы і Нямеччыны, але адкідае аднастароннае вырашэньне, накінутае Нямеччынай. У гэтакім духу быў зрэдагаваны адказ Польшчы і на мэмар'ял Нямеччыны. На ўсё гэта нямецкая прэса піша, што Нямеччына ўступаць ня будзе і прыгэтым паўтарае словы Гітлера, што Гданск ня будзе польскім...

Прыгэтым трэба адцеміць, што на прамове мін. Бэка ня было прадстаўнікоў Нямеччыны, Італіі і Японіі, якія, відаць, салідарны з становішчам Нямеччыны.

З ўсяго відаць, што становішча абедзьвух дзяржаў няўступчывыя і ўсьцяж гразяць рознымі камплікацыямі. **Тактыка Польшчы** ў гэтым канфлікце ідзе да таго, каб пры помачы сваей арміі і саюзаў з Англіяй і Францыяй абараніць сваю сувэрэннасьць на Памор'і і жыцьцёвыя інтарэсы ў Гданску, а **тактыка Нямеччыны** — прымусіць Польшч да ўступак запужваньнем і бязупынным напружаньнем нэрваў. Прыгэтым Нямеччына тасуе адносна Польшчы тактыку, якую тасавала праз 7 месяцаў адносна Чэхаславаччыны, ідучы да нэрвовага і фінансавага зьнемажэньня праціўніка, відаць, спадзяючыся гэтага самага рэзультату і тут. Адначасна з запужваньнем Польшчы Нямеччына пашырае на захадзе думкі, што Нямеччына ад Польшчы жадае вельмі мала, бо толькі Гданска і нейкай там аўтастрады праз нейкі карыдор — дык ці варта Англіі і Францыі за гэтакую „дробязь“ праліваць кроў мільёнаў сваіх салдат? Як бачым, тактыка даволі спрытная і няведама да чаго яна давядзе. Польская прэса піша, што Польшч на ніякія ўступкі ня пойдзе. Значыць, польска-нямецкі канфлікт будзе разьвівацца.

У вапошніх днях разыйшлася чутка, што Гданскі сэнат хоча наладзіць плебісцыт на абшары Вольнага Гораду ў справе прыналежнасьці да Нямеччыны, прыгэтым кожны жыхар аддаўбы картку з адказам „так“, або „не“. Сэнат спадзяецца, што рэзультат плебісцыту будзе пазытыўны. Калі-б польская армія хацела перашкодзіць далучэньню Гданска да Нямеччыны, тады выступіць у абароне волі насельніцтва нямецкая армія — і тады яе выступленьне ня былоб нападаючым, але абараняючым і Нямеччына не маглаб быць азначана як напасьніца — і заходнія дзяржавы ня меліб прычын да выступленьня процiў Нямеччыны. Гэты плебісцыт меўсяб адбыцца 21 або 28 мая сёлета. Значыць, тэрмін недалёкі!

У канцы трэба адзначыць, што польска-нямецкі канфлікт розьніцца ад усіх іншых канфліктаў тым, што ён блізкі і датычыць пасярэдня і беларускага народу, які знаходзіцца ў граніцах Польшчы.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Новая тактыка ці новыя людзі?** Орган польскага „Стронніцтва Людовага“, „Zielony Sztandar“ (7.V.39) зьмяшчае вестку пад загалоўкам „Людоўцы Слонімскага павету ў вобліку сучаснай сытуацыі“, ў якой сказана, што дня 23 красавіка сёлета адбылося паседжаньне Управы Строн. Людовага на Слонімскі павет і ў рэзультаце нарадаў над сучаснай сытуацыяй была прынята гэтакая рэзалюцыя:

„Мы беларускія сяляне (chłopi) станавімося салідарна з сялянамі цэлай Польшчы ў абароне граніц Польскай Дзяржавы. Процiў наезду захватніцкіх дзяржаў мы гатовы стаць на кожны заклік ўладаў. Паветавая Управа Стронніцтва Людовага заклікае ўсіх сялян да прыняцьця ўдзелу ў пазыцы процiўлятунскай абароны“.

Прачытаўшы гэтую рэзалюцыю мы былі нямала зьдзіўлены тэй вялікай пераменай, якая адбылася ў настроях насельніцтва Слонімскага павету. Бо аб даўнейшых настроях мы трохі чулі і ведаем, што там існаваў усякі іншы патрыятызм, але ня было патрыятызму польскага „Стронніцтва Людовага“. Мы помнім рэпартаж з гэтага павету, друкаваны пару гадоў таму ў „Кур. Віл“ (9. VIII. 36) пад загалоўкам „Гатоў на акупанта“. У гэтым рэпартажы была зьвернена ўвага на дзіўны спосаб прывітаньня, практыкаваны ў некаторых скамунізаваных мясцовасьцях Слонімскага павету, іменна, пры спатканьні віталіся клічам „На акупанта“, на што адказывалася „Гатоў“. Гэта быў умоўны кліч і водкліч людзей, якія спатыкаліся паміж сабою — і гэта дзеялася якраз на абшары Слонімскага павету! Дык помнячы гэтую тактыку і чытаючы цяперашнюю рэзалюцыю **беларусаў** Слонімскага павету, мімаволі прыходзіць думка: „Якая вялікая перамена наступіла ў настроях жыхароў Слонімшчыны! Раптам павет стаўся найболей патрыятычным у Польшчы“! Бо мы пільна пераглядаем „Zielony Sztandar“ і падобнай рэзалюцыі не бачылі з ніводнага павету ўсей Польшчы. Дык што тут такое, новая тактыка, ці новыя людзі? А можа людзі, якія сядзяць у Паветавай Управе, ня зьвязаны з Слонімскім паветам? Але якім спосабам яны могуць быць беларусы? А калі беларусы, дык чаго сядзяць у **польскай** арганізацыі?

**Праект „Літоуска-беларускай дзяржавы“?** Польская прэса прынясла вестку, што нямецкія дзейнікі ў Літве а такжа літоўскія прыхільнікі Нямеччыны павялі акцыю ў тым кірунку, каб зар'ентаваць Літву на Нямеччыну, кажучы, што пры супрацоўніцтве з Нямеччынай, Літва можа здабыць Вільню. Адначасна гэтыя самыя дзейнікі пашыраюць ідэю стварэньня Літоўска-беларускай дзяржавы з сталіцай ў Вільні. „Кур. Віл.“ (2. V) паведамляе, што гэтай агітацыі цяперашні літоўскі ўрад зрабіў канец.

Няведама, скольки праўды ў гэтых вестках. На наш пагляд, які мы выразілі ў мінулым нумары „Бел. Фронту“, Нямеччына **цяпер** шукае нэўтральнасьці на Ўсходзе перад дэцыдуючым змаганьнем на Захадзе. Яна перастала дражніць Саветы і рада была-б здабыць іх нэўтральнасьць, а нават і саюз.

# Аб „літуанізмах“ Адама Станкевіча.

Кс. Адам Станкевіч, каторы так лёгка піша аб усім, за што ні возьмецца, апошнім часам узяўся за літуанізмы ў беларускай мове. Паймення, пачынаючы з № 3-яга „Калосься“ 1938 г., друкуе там дагэтуль артыкул пад назовам „З літуанізмаў у беларускай мове“. Заданьне аўтара мае быць чыста практычнае. Ад. Ст. падае яго на пачатку свайго твору, дзе — прызнаюся неўспадзеўкі — выказавае вялікую рупнасьць аб чысьціні беларускага языка і дыкжэ, маючы гэта наўвеце, друкуе свой артыкул, каб, пазнаўшы літуанізмы ў нашай мове, „замяніць славамі беларускімі“ тое, „што можна“.

Прыгледзімся крыху да артыкулу А. Ст. Аўтар усе тыя словы беларускае мовы, што маюць — або яму здаецца, што маюць — карэнь балтыцкі, уважае за ўзятыя з мовы літоўскае, хоць яны могуць паходзіць з мовы загінулых Яцьвягаў, Голядзі, із цяперашняе мовы латыскае, ну й літоўскае, а галоўна з мовы тых Балтаў, каторых цяпер няма, бо сталі складовай часткаю беларускага народу. Ён робіць так, як-бы хто колечы, разглядаючы, прыкладам, германізмы ў украінскай мове, уважаў іх усе за пазычаныя з аднае мовы швэдзкае, хоць яны могуць такжа паходзіць з мовы норвэскае, гоцкае і асабліва нямецкае. Аўтар, хочучы гаварыць аб літуанізмах, а не аб балтызмах наагул, павінен быў у кажным асобным прыпадку давесьці, што гэта ня толькі слова балтыцкае, але і літоўскае. А як ён гэтага не зрабіў, дык із ягонага артыкулу рэдка можна даведацца каторы з пералічаных там „літуанізмаў“ запраўды такі.

Далей. Аўтар друкуе „літуанізмы“ з мэтаю замяніць іх славамі чыста беларускімі і адначасна ў ягоным артыкуле каля палавіны „літуанізмаў„ складаюць географічныя й асабовыя назовы беларускія. Няўжо-ж аўтар географічныя й асабовыя (прозьвішчы) назовы „літоўскага“ паходжаньня хацеў-бы замяніць чыста беларускімі? Гэта было-б, праўда, насьледаваньнем Ліцьвіноў і некаторых нашых „апякуноў“, але ўсё-ж такі разумным ня было-б, дый пры цяперашнім нашым палажэньні правесьці гэта ня было-б найменшай магчымасьці. Аўтар жыве сярод нас і ўсё гэта дасканальна ведае, дык друкаваньне аўтарам у сваім слоўнічку „літуанізмаў“ словаў собскіх (а ня толькі агульных) ставіць пад сумлеў шчырасьць ягонага ймкненьня да чысьціні беларускае мовы. Ён хіба пажартаваў, кажучы нам, што хоча прычыніцца сваім артыкулам да чысьціні мовы. А калі так, дык артыкул, ня маючы значэньня навуковага (заданьня такога аўтар сабе ня ставіць), ня мае адначасна і значэньня практычнага. Інакш кажучы артыкул зусім непатрэбны, бо-ж значэньня мастацкага ён хіба таксама ня мае.

Што з географічных і асабовых назоваў беларускіх немагчыма выкідаць балтызмы — гэта кажнаму ясна. Але ці магчыма выкідаць і звычайныя словы балтыцкага паходжаньня?

Аўтар добра зацеміў на пачатку свайго артыкулу, што „Беларускі народ... ад літоўцаў сяньня ўжо не пазычае, але даўнейшай языковай пазыкі, зробленай у іх даўней, трымаецца і цяпер, пераважна ўважаючы ўжо за сваю ўласнасьць“. Тут адно трэба паправіць, што не „пераважна“, але *заўсёды* ўважае за сваю собскасьць.

Чаму-ж цяпер у Ліцьвіноў Беларусы словаў не пазычаюць? Галоўна дзеля таго, што хоць жывуць з імі ў суседзтве, але няма ўплыву літоўскага на Беларусаў, ня гледзячы на тое, што, здавалася-б, Ліцьвіны стаяць цяпер вышэй за Беларусаў (палітычна напэўна вышэй, бо маюць собскае гаспадарства). Не пазычалі такжа перад вайною ды ў стаг. XIX і XVIII, бо тады палажэньне беларускае проці літоўскага было лепшае, як цяпер; і пагатове не маглі пазычаць раней у пару задзіночанага беларускага гаспадарства, так званага Вялікага Княства Літоўскага, бо тады мы панавалі культурна й гаспадарсьцьвена. З тае-ж прычыны, агульна кажучы, не маглі пазычаць у пару асобных беларускіх гаспадарстваў (X — XIII стаг.). Тыя сямыя болей меней адносіны былі да другіх Балтаў, значыцца да Латышоў. Маглі, значыцца, Беларусы дастаць словы балтыцкага паходжаньня звычайна ў пару прадгістарычную. А тым часам немагчыма нат' выкідаць пазычэньні пазьнейшыя, рання-гістарычныя. Ці важыцца хто выкідаць такога „цівуна“ што прынясьлі нам Норманы ў IX — X стаг? Балтызмы ў нашай мове могуць быць прыраўнаваны да такіх гэрманізмаў у мове агульна-славянскай, як *хлеб* і *князь*. Справа прадстаўляецца так, што ўжо ў часе паўставаньня беларускага языка ён дастаў у спадку вялікую колькасьць словаў славянскага паходжаньня і малую колькасьць словаў балтыцкіх. З гледзішча беларускага языка ні водныя з іх ня будуць барбарызмамі, але словамі чыста беларускімі. Выкідаць такія балтызмы значыла-б рабіць ня толькі

# На беларускім грунце

### ЧАКАНЬНЕ ВАЙНЫ.

Найболей характэрнай прыметай нашага грамадзянства зьяўляецца цяпер чаканьне вайны. Чаканьне гэтае выяўляецца асабліва на вёсцы. Некаторыя на ўсялякі выпадак купляюць соль, некаторыя збожжа, а некаторыя махаюць рукою на ўсё, кажучы, што калі вайна прыйдзе, усё прападзе, дык нічога ня трэба. А некаторыя чакаюць вайны толькі дзеля навіны, дзеля тэй прыпадковай „перамены“, якая мае прыйсьці...

Уважаем, што такое чаканьне ня мае сэнсу. Бо дапусьцім, што вайна прыйшла, людзі б'юцца, льецца кроў, гараць гарады і вёскі, зьнішчэньне пашыраецца кругом... Ну і што потым? Якае з гэтага карысьць для **беларускага народу,** калі ён ня зможа яе выкарыстаць? Ніякая! Дык нашто вайна? А ўрэшце, што тады, калі вайны саўсім ня будзе?

Трэба заўсёды помніць аб адвечным правіле, што толькі сільныя народы здабываюць для сябе лепшую долю і толькі з сільнымі народамі лічацца. На слабыя не зварочваюць увагі. Яны або ідуць у новую няволю, або гінуць з вобліку зямлі. Ніякая вайна, ніякая чужая помач не выцягне народу і ня дасьць яму лепшай долі, калі ён яе сам ня возьме. Бо кожны народ ёсьць кавалём сваей долі і мае такую, на якую сам заслужыў.

Трэба заўсёды помніць аб такіх правілах:

1) Кожны народ павінен мець свае ясныя нацыянальныя мэты, сваю палітычную лінію і сьведамасьць належных яму правоў,
2) Да сваіх мэт і да здабыцьця сваіх правоў павінен ісьці ў кожных абставінах жыцьця, і трудных і лёгкіх, цяперашніх і будучых,
3) Мець сілу духа і нацыянальную чэсьць,
4) Прабудзіць у сабе ахвярнасьць для агульнай справы.

Калі-б беларускі народ меў гэтыя прыметы, ён нават у найтруднейшую часіну патрапіўбы здабыць для сябе ўсе належныя правы. А калі мець ня будзе, не паможа яму і вайна. Бо на нашай памяці была ўжо адна вайна — і што? Ці беларускі народ яе выкарыстаў?

---

Прызнаюць усе, што нямецка-савецкі саюз грунтоўна перамяніўбы сяньняшні ўклад палітычных сіл — і то на некарысьць дэмакратычнага блёку. Дык да гэтакага саюзу ня хочуць дапусьціць сябры гэтага блёку і ягоныя прыхільнікі. Французская прэса піша яшчэ аб прапазыцыях, робленых Польшчы Нямеччынай, з мэтай супольнага паходу на ўсход і падзелу Расеі. Гэтыя ўсе весткі маюць на мэце адхінуць Расею ад саюзу з Нямеччынай. У гэтай тэндэнцыі, на наш пагляд, трэба шукаць жарала вестак аб праекце ўтварэньня Літоўска-беларускай дзяржавы.

Нямеччына, шукаючы нэўтральнасьці Саветаў, ня будзе цяпер нават успамінаць аб паходзе на ўсход і падзеле Расеі на паасобныя дзяржавы, а што датычыць Літвы дык на гэтакі праект яна ня пойдзе з тэй прычыны, што рэалізацыя гэтага праекту маглаб папсаваць яе адносіны з Саветамі і Польшчай і зьвязаць яе з усей Беларусяй, каторай яна баіцца, як адпіхаючай яе штораз болей на захад. Лятуценьні Літвы не пераходзяць лініі Нарач-Смаргоні-Нёман — на ўсходзе, а лініі Масты-Саколка-Аўгустоў — на поўдні. Пажаданьнем Літвы на поўдні ёсьць супольная граніца з Украінай — і ў гэтай справе быў як мы чулі, дагавор паміж нябожнікам Канавальцам (які, як ведама, быў літоўскім грамадзянінам і меў літоўскі пашпарт) і Літвою. Сутык паміж Украінай і Літвою меўбы наступіць праз Бельшчыну — з аднаго боку, а Сакольшчыну — з другога. Гэтакія ёсьць імкненьні Літвы. На ніякія праекты супольнай Літоўска-беларускай дзяржавы літоўцы ня маюць ахвоты.

**Сьмерць інтэрнацыяналу.** Украінская газэта „Батьківщина“ (7. V) у артыкуле „Інтэрнацыянал — памёр“ так піша: „Не такія ўжо даўныя часы, калі па нашых сёлах увіваліся агітатары розных нацыянальнасьцяў і пераконывалі сялян, што іх шчасьце і сіла ў міжнароднай салідарнасьці. Нацыя, гаварылі яны, гэта буржуазная выдумка. Няма ніякай нацыянальнай салідарнасьці, а ёсьць толькі салідарнасьць клясаў, без агляду на нацыі. Бліжэйшым ёсьць украінскаму сяляніну або работніку чужы нацыянальна селянін або работнік, як свой інтэлігент — пераконывалі яго. Гэта едзь прасякала ўкраінскі мозаг, па сёлах і гарадох тварыліся ячэйкі Сельробу і КПЗУ, нацыянальная супольнасьць трашчала. Бывалі шматлікія выпадкі, што ўкраінскімі сялянамі камандавалі жыдоўскія агенты, да іх мелі сяляне болей даверу, як да сваіх людзей...

„Гэтыя часы па нашых сёлах мінулі, але па гарадах да апошніх гадоў гайсалі агітатары і зацягвалі ўкраінскае работніцтва пад чырвоныя сьцягі, на якіх віднеў паблеклы кліч „Пралетары ўсіх краёў злучайцеся“... Аж прыйшоў першы травень 1939 году. Цэлы сьвет жыве ў трывозе і ваеннай пагатове. Не клясы, але народы стаяць проціў сябе, закутыя ў жалеза. І як мыльны баўдыр трэснула міжнародная салідарнасьць пралетарыяту. Работнікі ўсіх народаў пакідаюць чырвоныя сьцягі і становяцца пад нацыянальнымі. Прысягаюць верна бараніць — не работніцкай салідарнасьці, але сваю бацькаўшчыну...

„Дня 1 траўня 1939 году інтэрнацыянал пымёр. Пахавалі яго самі работнікі... Работнікі ўсіх народаў зразумелі, што доля кожнае работніцкае клясы зьвязана з доляй свайго народу, што толькі тады работніцтву, сялянству і ўсім клясам будзе добра, калі будзе добра народу, да якога яны належаць“.

Думкі вельмі цікавыя, яны дапаўняюць нашы думкі, якія мы зьмяшчаем у перадавым артыкуле нашай газэты. Думкі „Батьківщины“ можам перанесьці жыўцом на беларускі грунт, зьмяніўшы толькі назовы народу і партыяў.

### У СПРАВЕ БЕЛ. ГІМНАЗІІ.

Бацькаўскі Камітэт Бел. Гімназіі, бяручы пад увагу чуткі, якія былі разыйшоўшыся ў вапошнім часе аб намеры ліквідацыі Гімназіі, выслаў дэлегацыю да міністра Асьветы ў Варшаву. Дэлегацыя ў складзе прэфэкта Бел. Гімназіі кс. Ст. Глякоўскага і старшыні Бацькаўскага Камітэту рэд. Я. Пазьняка дня 9.V. была прынята мін. Сьвентаслаўскім, якому прадставіла пажаданьні беларускага грамадзянства аб захаваньні Гімназіі. Міністар абяцаўся аднесьціся да просьбы прыхільна.

Прыняцьце міністрам беларускай дэлегацыі і абяцаньне яго аб захаваньні Гімназіі, мае сваю вымову. Гэты факт сьведчыў-бы аб новым курсе адносна беларусаў. Мусім адзначыць, што пасьля ліквідацыі Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, Т-ва Бел. Школы і Бел. Гаспадарскага Зьвязу, адносіны былі вельмі цяжкімі, проста немагчымымі. Гэта адчувалася ўсюды, і ў горадзе і на сяле. Як мы чулі, да наладжаньня аўдыенцыі ў міністра Сьвентаслаўскага многа прычыніўся ген. Жэлігоўскі.

### ЦІ ТОЛЬКІ КУЛЬТУРНАЯ АКЦЫЯ?

Ад некалькіх гадоў усходнія землі Польшчы зьяўляюцца ў летнім сэзоне тэрэнам усіленага наплыву розных культуртрэгэраў. Юнакі, скаўты, настаўнікі, RUL-i (Ruchomy Uniw. Ludowy), а ў 1938-9 годзе і студэнты і г. д. узялі сабе за мэту культурна падцягнуць „цёмных крэсовых мужыкоў“ і зраўняць іх з цывілізаваным захадам. У бягучым годзе на ўсіх унівэрсытэтах Польшчы шырака праводзіцца вэрбунковая „мабілізацыя на фронт ад Вяльлі па Збруч“, дзе, як пішацца ў вэрбунковых афішах, трывае сталая барацьба. Шчырасьць гэтай „культурнай“ акцыі вельмі сумліўная. Бо каб яна была шчырая, дык праводзілася-б беларускімі культурнымі арганізацыямі, але, нажаль, яны зьліквідаваны, дык насельніцтва нашых зямель у гэтай акцыі новых „франтавікоў“ бачыць асыміляцыйныя натугі і адпаведна да іх адносіцца.

### З БЕЛАРУСКАГА НАВ. Т-ВА.

У нядзелю 14.V.39 г. адбылася чарговая зборка Бел. Навук. Т-ва, на якой Максім Танк прачытаў нова-напісаную паэму п. н. „Сілаш Істома“ Пасьля вывязалася жывая дыскусія, якая аднеслася да новага твору паэта прыхільна.

### ТЫДЗЕНЬ ПРАПАГАНДЫ МУЗЭЯЎ.

Ад 23 да 30 красавіка ў Вільні адбыўся, за прыкладам мінулых гадоў, тыдзень прапаганды музэяў. Беларускі Музэй за тыдзень часу адведала каля 3000 асоб, прыгэтым шмат экскурсіяў ў сувязі з цеснатою музэальнага памяшчэньня і вялікім наплывам адведываючых не магло дачакацца свае чаргі і пабачыць памяткаў нашага слаўнага мінулага.

Прыпамінаем, што Беларускаму Музэю ад году спынена ўрадавая субсыдыя і што ўтрымоўваецца ён толькі з ахвярнасьці беларускага грамадзянства. Грамадзкім абавязкам кожнага Беларуса ёсьць актыўнае ўчасьце ў нясеньні матар'яльнай і іншай помачы для ўтрыманьня так важнай культурнай пляцоўкі, якім ёсьць Музэй.

---

крывавую, але і зусім няпрыродную апэрацыю.

Дзеля свае даўніны балтызмы не адчуваюцца як словы чужыя і ня могуць гэтак адчувацца ў беларускім языку *).

Аўтар ані не ар'ентуецца ў языкаведзе, дзеля таго бальшыня падаваных ім „літуанізмаў“ ня мае нічога супольнага ані із словамі літоўскімі, ані з балтыцкімі наагул.

Аўтару досыць пабачыць два падобна выглядаючыя словы ў мове беларускай і літоўскай, як ён ужо лічыць, што Беларусы пазычылі ў Ліцьвіноў, а тымчасам: a) можа быць наадварот, значыцца, што Ліцьвіны ўзялі ад Беларусоў; b) можа падобнасьць быць вонкавая, хоць паходжаньне словаў рознае. Прыклады:

**Авін** (прозьвішча) ня мусіць быць літ. avinas, бо ёсьць і рас. *овин,* а калі-б пашукаць, то хіба знайшліся-б і іншыя словы, ад каторых можа паходзіць наш *Авін.*

**андарак** (спадніца) — слова ня літоўскае, а паходзіць з ням. unterrock. Літ. andarokas, як паказвае пачатны самагук *(а з у)* прыйшло ў літ. мову за пасярэдніцтвам беларускай.

**Бартэліха** — сяло й лугі ў Валожынскім пав. Як ад Лабач ёсьць Лабачыха (жонка й зямля Лабачова), так ад Бартэль будзе Бартэліха. Бартэль, як і Бартуль, Баўтрук паходзіць ад Баўтрамей, Бартламей. Суфікс *-ель* ёсьць у белар. мове, прыклад. *мудрагель.* Хто-б падумаў, што хтось нашу *Бартэліху* пачне выводзіць ад літ. bartinas — варты ганы чалавек.

**Біцяняты** (назоў сяла) подле аўтара паходзяць ад літ. bitė—пчала. Значыла-б гэта, што якісь Беларус меў літ. прозьвішча *Біце,* ягоныя дзеці пабеларуску зваліся-б ад гэтага прозьвішча *Біцяняты,* а ад іх і назоў сяла. Але ня меней добра *Біцяняты* могуць быць ад белар. прозьвішча *Біты,* як ёсьць прозьвішчы *Сівы, Ліхі, Прыганяты* і пад. Цьвердзіць, што назоў *Біцяняты* літ. паходжаньня гэта значыць, што із сфэры навукі пераходзіць у сфэру зычэньня - веры.

**брындацца** — (брызгацца, абдзірацца ад баўтаньня) паходзіць не ад літ. brindos, але мае слав. карэнь brъn-, ад каторага ўтварылася блр. *брынкаць (-ры- з -rъ-* характэрная беларуская асаблівасьць) — выдаваць не- або мала- гармонійныя гукі, рас. *бренчать.* Той-жа карэнь адно з іншым самагукам ёсьць у рас. бряцать, пол. brzęk, чэс. brinčeti, brinkot. Ад караня brъn- суфіксам- *са* (які ёсьць у *праўда, крыўда* і інш.) паўстала *брында,* ад чаго далей *брындацца.*

**валіць** (сукно ў валюшы) ня з літ. valyti — чысьціць (што мае *чысьціць* супольнае з валеньнем-убіваньнем?), але таго самага паходжаньня, што белр. *валіць, павваліць, валяць* (далоў) і пад., прыр. рас. *валять* так сама з тым-жа значэньнем.

*валюш* ня з літ. veliušis, але з ням. foluš, што пад уплывам блр. *валіць* дарогаю народнай этымолёгіі пératварылася ў *валюш.* Чыста белар. ёсьць *вальня* (гл. слоўнік Насовічаў).

**Вашкель, Вашковіч** (прозьвішчы) паходзяць не ад літ. vaškas—воск (трудна, каб назоў воску стаў прозьвішчам, ды дзе захавалася прозьвішча *Вашк?)* але ад *Івашка* зьмянш. ад *Іван.* Як траціцца сувязь із словам *Іван,* дык у Івашка і пад. *і-* часта адпадае. Бывае гэта ў васабовых і географічных назовах. Напр.: ля Сол Ашм. п. ёсьць мясцовасьць, каторую цяпер усе акалічныя людзі завуць *Вашкаўцы,* а тымчасам у дакумэнтах захавалася *Івашкаўцы* і так цяпер пішуць у воласьці.

**вушак** — брус ля дзьвярэй, паходзіць ад блр. *вуха,* а літ. ušokas з блр. *вушак,* а не наадварот, як думае аўтар.

**грэбля** так сама чыста беларускае слова, паходзіць ад *грабсьці* (з *грэбсьці),* пр. п. grobla.

**гуня, гунька** ня з „літ.“ gunia, а, як і чэс. houně із сярэднявечналацін. gunna; з гэтага-ж і літ. gunia, але, як паказвае канчатак, за пасярэдніцтвам блр. мовы.

**дэнка** ня з літ. denkti — пакрываць, але гэта польскае denko з dъno, прыр. чэс. denko, ад таго-ж *дна* і блр. з іншым суфіксам *днушка* (як *кадушка).* Пры гэтым denko ані *днушка* не абазначаюць вечка ці накрыўкі, як чамусьці думае аўтар, але служаць адумысловай дошчачкай, на каторай крышаць, крояць і пад., вось-жа бывае падыспадам, служыць як-бы дном.

**затаўка** не ад літ. taukai, як хоча аўтар, але ад блр. *затаўчы.* Бяруць сала, расьціраюць яго ці накш *таўкуць* і, кідаючы ў гаршчок, закрашаюць ім страву. Адгэтуль *затаўка, затаўкаць.* Так сама ад *забяліць* паўстала *забел.* Літ. taukai нормальна адказвае блр. *тук.*

**зьмяркаць, -ца, змурок** так сама аўтар уважае за літуанізмы, хоць маем пол. zmierzch, zmrok рас. *сумерки,* чэс. soumrak, цсл. (стара-

(Далей на адвароце).

*) Тыя балтызмы, што кажуцца адно ў абмежаных мясцовасьцях беларускіх, значыцца балтызмы-провінцыялізмы, будуць, ведама, чуцца чужымі ў іншых мясцовасьцях беларускіх, але іх ізноў ня можна выкідаць із *агульнай* мовы беларускай, бо іх у ёй няма. А з мясцовай мовы беларускай ня можна выкідаць балтызмы, бо яны там вельмі старыя і, як таковыя, адчуваюцца зусім сваімі; выкідаючы іх, мы нарушылі-б цьвярдзіню мясцовага беларускага нарэчча, робячы яго меней адпорным на асыміляцыйныя ўплывы мовы польскай або расейскай.

# На міжнародным ґрунце

### АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

Першая палавіна месяца траўня прайшла пад знакам „дыпляматычнай вайны“, аб каторай мы пісалі ў папярэднім нумары і пад знакам далейшай мабілізацыі дзяржаў, праводжанай двама блёкамі. Прыгэтым адбываецца цікавае „самаазначэньне“ дзяржаў, вырашаецца пытаньне, хто з кім і процiў каго? Некаторыя дзяржавы ўжо „самаазначыліся“ і выразна сталі на старане аднаго або другога блёку, а некаторыя ня хочуць або баяцца „самаазначыцца“, дэкляруючы свой нэйтралітэт; некаторыя-ж дзяржацца вельмі загадковай лініі— і да гэтых у першую чаргу трэба залічыць Саветы.

Галоўныя выпадкі ў гэтым часе былі такія: **прамова мін. Бэка,** вуснамі каторага Польшч выразна і здэцыдавана заявіла, што ад Балтыцкага мора адапхнуцца ня дасца; неспадзяваная **дымісія Літвінава,** якая зрабіла становішча Саветаў у цяперашнім сусьветным канфлікце яшчэ болей загадковым; заключэньне **вайсковага саюзу** паміж Бэрлінам і Рымам, паводле якога ў выпадку вайны арміі дзьвух дзяржаў будуць пад адзінай камандай; згода Латвіі і Эстоніі на падпісаньне пакту ненападаньня з Нямеччынай, што сьведчылаб аб імкненьні Нямеччыны да адасабненьня Польшчы; адказ Швэцыі і Нарвэгіі ад падпісаньня з Нямеччынай пакту ненападаньня, прыгэтым абедзьве дзяржавы заявілі, што будуць дзяржацца нэўтральнасьці без вязаньня сябе якімі-небудзь пактамі; далучэньне Турцыі да дэмакратычнага блёку, што адкрывае перад Англіяй праход у Чорнае мора праз Дарданелы і Босфар. Гэтым шляхам Англія мае памагаць ня толькі Румыніі, але і Польшчы, на прыпадак, калі-б праход у Балтыцкае мора быў зачынены немцамі.

Як бачым, падзеяў многа. Сюды трэба было-б дадаць яшчэ два факты: перагаворы сэрбаў з харватамі аб фэдэрацыйным ладзе ў Югаславіі, пры якім харваты і славенцы здабыліб для сябе аўтаномію. Гэтыя перагаворы хоць ідуць туга, але, здаецца, давядуць да пазытыўнага рэзультату, бо ёсьць націск звонку. Другі факт, зусім сэнсацыйны: Вугрыя пад націскам Бэрліна дае Карпацкай Украіне шырокую аўтаномію! Вугорскі прэм'ер Тэлекі на вечы ў Шэгэдыне заявіў, што Прыкарп. Русь атрымае шырокую аўтаномію, якая абыйме культурныя, гаспадарчыя і палітычныя інтарэсы краю... Прэм'ер Валошын ужо прабывае ў Карп. Украіне, дзе мае арганізаваць новы ўрад. Трэба прызнаць, што ствараньне Карп. Украіны ў граніцах Вугрыі будзе мець яшчэ большае значэньне, чым у граніцах б. Чэхаславаччыны...

### АКЦЫЯ НЯМЕЧЧЫНЫ НА ЎСХОДЗЕ.

Аб польска-нямецкіх адносінах мы пішам на іншым месцы. Тут скажам толькі, што гэтыя адносіны з кожным днём завастраюцца. Карыдор, якога жадаюць для сябе немцы праз Памор'е, мае быць 25 клм. шырыні і каля 36 клм. даўжыні і мае быць пад уладай Нямеччыны. Польшч на гэтакі карыдор згадзіцца ня можа, бо была-б адрэзана ад Гдыні і наагул ад мора. Немцы маглі-б гэты карыдор украпіць і гэтым акружыць Польшч ад поўначы. Дзеля гэтых самых прычын Польшч ня хоча ўступаць і Гданска. У Гданску немцы маглі-б стварыць для сябе яшчэ адну ўкрэпляную базу над Балтыкам, так як гэта робяць у Клайпэдзе.

**Тактыка Нямеччыны,** здаецца, такая: акружыць Польшч з усіх бакоў саюзнымі дзяржавамі (Славакія, Вугрыя) і нэўтральнымі (Літва, Латвія, Эстонія, Саветы, Румынія), ізаляваць яе ад сьвету цалком, як на поўначы (Скандынавія), так і на поўдні (Балканы, Чорнае мора) змусіць яе фінансава і эканамічна і прымусіць да капітуляцыі, так як Чэхаславаччыну. Дзеля гэтага Нямеччына запрапанавала ня толькі Латвіі і Эстоніі, але і скандынаўскім дзяржавам (Швэцыі, Нарвэгіі, Фінляндыі і Даніі) пакты ненападаньня.

На Балканах, асабліва ў Румыніі і Турцыі, спасьцерагаецца глыбокая дыпляматычная акцыя Нямеччыны, ідучая ў двух кірунках: 1) зрабіць для сябе праход да Чорнага мора і Дарданелаў, а потым на Багдад і Індыю, 2) загарадзіць дарогу Англіі, каб яна не магла дайсьці і падаць помачы Румыніі і Польшчы. Гэтая акцыя Немеччыне не ўдалася, бо Турцыя, ня глядзячы на стараньні нямецкай дыплямацыі, здэцыдавана перайшла на старану Англіі і адчыніла для яе Дарданелы і Босфар. Значыць, тудою Англія зможа падаваць помач як Румыніі так і Польшчы і браць ад іх патрэбныя для сябе тавары і сыравіну, асабліва румынскую і польскую нафту.

Калі не ўдалося Нямеччыне ў Турцыі, трэба чакаць, што яна разам з Італіяй будуць шукаць іншых спосабаў, каб адрэзаць Балканы і Малую Азію ад Англіі. Гэтыя спосабы яны хочуць знайсьці ў Гішпаніі, каб пры помачы ген. Франко зачыніць Гібралтарскі праліў і для Англіі... Выглядае, што Гішпанія на гэту камбінацыю, хоць асьцярожна і паволі, але ідзе. Доказам гэтага ёсьць такія факты: далучэньне Гішпаніі да антыкам. пакту, выступленьне з Лігі Народаў, катэгарычнае жаданьне ад Францыі звароту золата і аружжа, вывезенага туды рэспубліканцамі. Калі-б удалося „закаркаваць“ Гібралтар такжа для англійскіх і францускіх караблёў, палажэньне на Міжземн. моры для „дэмакратычнага“ блёку зрабілася-б цяжкім. На ўсякі прыпадак Англія ўмацоўвае другі выхад з Міжземн. мора каля Суэзу і Баб-эль-Мандэбу. Як бачым раён дзеяньня на поўдні вельмі абшырны.

На поўначы ён крыху вузейшы, але і тут абхватывае ўсю Прыбалтыку з Швэцыяй і Нарвэгіяй уключна. Найболей увагі зварочвае на сябе Данія, якая суседуе з Нямеччынай і ў руках якой знаходзяцца праліны, вядучыя ў Балтык. Англія баіцца, каб з Даніяй ня сталася таго, што з Альбаніяй, бо тады англійская помач праз Балтык не маглаб прайсьці...

Каб перашкодзіць нямецкай дзейнасьці на Ўсходзе, марш. Сьміглы-Рыдз запрасіў у Варшаву павадыра літоўскай арміі ген. Раштікіса. Візыта прайшла ў вельмі прыязнай атмасфэры, заўважваецца штораз большае збліжэньне Літвы з Польшчай.

### СТАНОВІШЧА САВЕТАЎ.

Найсільнейшым фактарам на ўсходзе Эўропы зьяўляюцца Саветы, дык за іх становішчам уважна сочаць палітычныя кругі. Але дагэтуль няведама, з кім пойдуць Саветы, з Англіяй ці з Нямеччынай. Калі ўжо Літвінаў давадзіў да канца свае гутаркі з Англіяй, раптам быў звольнены з свайго становішча, а на яго месца быў назначаны Молатаў. Прычыны дымісыі Літвінава няясны, іх выясьняць пазьнейшыя факты і паступаньні новага камісара загр. спраў. З таго, што цяпер ведама, можна зрабіць такія высновы: **Сталін ня хоча заключаць ніякіх забавязаньняў ані з адным ані з другім блёкам, каб у кожны час мець свабоду дзеяньня.** Літвінаў гэтыя забавязаньні хацеў падпісаць з Англіяй і дзеля гэтага прымушаны быў уступіць. Характэрна толькі, што партрэты Літвінава зараз на другі дзень былі паздымаваны ў камісарыяце загр. спраў у Маскве, тады калі нават Ежова віселі пару месяцаў. Відаць востра перагаварыўся з Сталінам. Усе чуткі аб тым, што Саветы маюць заключыць саюз з Нямеччынай, ня маюць пад сабою глыбейшых падстаў.

**Тактыка Саветаў** цяпер такая: выклікаць усімі магчымымі спосабамі вайну паміж двама блёкамі; не прыймаць на сябе ніякіх забавязаньняў адносна аднаго ці другога блёку; быць абсэрватарам агульнага змаганьня аж да таго часу, калі прыйдзе пара ўмяшацца ў яго, тады сьвежая і ненарушаная савецкая армія задэцыдуе аб перамозе. Гэтакай тактыкі дзяржыцца Сталін і ўсе разсеяныя па розных дзяржавах камуністы.

З другога боку трэба зьвярнуць увагу на той факт, што ані Нямеччына, ані Японія ў апошнім часе процiў Саветаў не выступаюць. Значыць, хочуць, каб Саветы былі нэўтральнымі. Яны думаюць, што нэўтральнасьць Саветаў дасьць ім магчымасьць расправіцца з „дэмакратычным“ блёкам — а потым і з Саветамі. Кожны мае сваё вырахаваньне!

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

### З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ.

**„Хр. Думка“** (10.V) зьмяшчае салідны і актуальны артыкул „У чэсьць маткі-сялянкі“. У артыкуле прадстаўляецца гаротнае жыцьцё маткі-сялянкі, якой за яе працу ня толькі няма спагаду ад уласных дзяцей, але здараюцца часта зьдзекі і зьнявагі. Далей у артыкуле гаворыцца аб заслугах маткі перад народам, а гэтыя заслугі сапраўды вялікія. Усім, хто інтарасуецца грамадзкім і нацыянальным беларускім жыцьцём, раім прачытаць гэты артыкул. Апроч гэтага ўважаем, што пры сяньняшнім зьдзічэньні, апроч асьветы патрэбны яшчэ адумысловыя законы, бароначыя годнасьць маткі.

## Аб „літуанізмах“ Адама Станкевіча.

баўг.) *мракъ* *); ані Чэхі, ані Баўгары не прыяжджалі пазычаць сабе слоў у Ліцьвіноў.

У аўтара ня мае значэньня нязгоднасьць гукаў у васновах словаў. Напрыклад:

**вадзіцца** не ад літ. vaidas, бо дзе падзелася-б *і,* але ад белар. *вáда (= звада),* каторае пэўне таго-ж паходжаньня, што пол. wada, чэс. vada (абодва значаць „загана“); вадзячыся ўпікаюць адно аднаму vady. Белар. *вайдаваць* мы ня знаем і ня ведама, скуль аўтар яго ўзяў.

**ёўня** (сушня збожжа) ня можа быць з літ. jauja, бо літ. *ja* не пераходзіць у блр. мове ў *ё*. Слова *ёўня* трэба прыраўнаваць да рас. *овин* (так сама сушня збожжа), *-ня* і *-ин* у іх суфіксы, а блр. *ёў* з *ев* (*в* перад сугукам перайшло ў *ў*, а націсьненае *е* перайшло ў *ё*) і рас. *ов-* зьяўляюцца тым самым каранём з розным пачатным сугукам (гэта розьніца яшчэ з пары праіндоэўрапэйскай). Адкінуўшы суфіксы, блр. *ёўня* і рас. *овин* будуць так адносіцца да сябе, як *единъ* да *одинъ* або як блр. *ежык* да беларускага-ж *вожык*. Дык і паходзячыя ад *ёўня* **Ёўневічы** (сяло) ня толькі назоў беларускі подле свайго суфіксу, але й подле караня.

**зрэпіцца** ня з літ. reples, бо дзе падзелася-б *л,* але з блр. *рэпа,* значыцца „счапіцца як рэпа“.

Зусім накшае значэньне двух балей меней на пагляд падобных слоў, літоўскага й беларускага, не перашкаджае аўтару лічыць беларускае літуанізмам. Прыклады:

**галіна** — ветка, аўтар выводзіць яго з літ. galinis — канцавы. Але што мае супольнага галіна з канцом? Аднаго значэньня з *галіною* ёсьць блр. слова *голь* з *голы. Голь* абазначала спачатку *голую ветку,* значыцца бяз лісьця, а потым ветку наагул. Ад *голь* паўсталі з аднаго боку зьмянш. *голка,* зборн. *гальлё,* а з другога адзіночнае *галіна* (як ад *жэрдзь — жардзіна).*

**даба,** хоць і аднолькава выглядае з літ. daba — характар, натура, але нічагусенькі ня мае з ім супольнага, бо што можа быць супольнага паміж выклічнікам, выказаваючым зычэньне, каб штось сталася, і словам, абазначаючым характар. Рас. злуч *дабы* (з *да + бы)* ваказавае зычэньне наагул, а блр. *даба* выказавае зычэньне, каторае ня споўнілася. Пр.: даба, каб гэта было! (але няма). Блр. *даба* ня мае на сабе націску дык *-ба* ёсьць з *-бы* (бо кажуць і *рабіў-ба* і пад.). Знач. *даба* ёсьць чыста белар. словам.

**жыляць** — цяжка працаваць, не паходзіць ані з літ. žilinti — даводзіць да сівізны, ані нават з žilas —сівы, аб каторым аўтар не ўспамінае, бо значэньні не згаджаюцца, але вельмі проста паходзіць ад блр. *жыла;* цяжка працуючы натужаюць жылы, адгэтуль *жыляць, выжыляць, -ца* (= пол. wysilać, - się).

Аўтар уважае за літуанізмы белар. словы, маючыя з літ. супольны карэнь індо-эўропэйскі. Прыклады:

**выметвацца** — выкідвацца, выкручвацца, подле аўтара мае быць з літ. mesti — кідаць. Але словы таго-ж караня маем і ў іншых славянскіх мовах: пол. miotać, чэс. metati, рас. метать. Разам з гэтымі літ. mesti паказвае, што маем тут супольны карэнь індоэўропэйскі.

**дзевер** — мужні брат, не з літ. dieveris, а калі не наадварот, дык маем тут ізноў супольнае пахожжаньне індоэўропэйскае, бо ёсьць ст.-пол. dziewierz, рас. деверь, цсл. дѣверь, схр. djever, укр. дівер, чэс. devər, лац. levir.

**дзёгаць** — так сама паходжаньня індоэўропэйскага, а ня з літ. deginti — паліць, бо апрача славянскіх (пол. dziegieć, чэс. dehet', рас. дёготь) маем санскрыцкае dahati.

Зусім з такім самым правам, як менаваныя словы, аўтар мог залічыць да літуанізмаў гэткія беларускія словы, як *галава, варона, рука,* бо па-літоўску ёсьць galva, varna, ranka.

Колькасьць прыкладаў можна было-б значне павялічыць, але й вышпрыведзеных даволі, каб паказаць, чаго варт артыкул аўтараў. У поймах неадумыслоўцаў ён стварае хаос, блытаніну, а ў спэцыялістых выклікае прыкрую ўсьмешку. Дзеля таго ня можна было не напісаць аб ім гэтага артыкулу.

* * *

У канцы нельга не зацеміць аб аднэй, здавалася-б дробязі, каторая мае аднак не малое значэньне. Пайменна: аўтар заяўляе: „Дзеля экономіі часу літары літуанізмаў, апрача першай, разьмешчаны бяз увагі на альфабэтычны парадак“ (бач. 173 „Калосься“ з 1938 г.). Ня можна рабіць блага дзеля „экономіі часу“. Калі-б сталяр апраўдаваўся, што ён стол ці шахву зрабіў ня добра, бо шкадаваў часу, дык ніякі купец ня прыняў-бы гэтага пад увагу. І пагатове ня можа гэтак заяўляць аўтар, бо гэта ня толькі непашана да чытароў, але й адначасна трата часу наагул: чытароў шмат і яны балей страцяць часу, чымся ашчадзіць яго аўтар. Дык хай сабе будзе які-колечы аўтар і надта заняты чалавек, але ашчаджаць час коштам роўні свае працы ён не павінен. Ды дзе граніца такой „экономіі часу“?

**Ш—ць.**

*) Прыклады з іншых славянскіх моваў даводзяць, што паходжаньне слова агульна-славянскае, а тым самым ня літоўскае.

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski. Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.